# наша свабода

№24(251) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

1 САКАВІКА
2002 году
ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ

## Тэлеканалаў будзе тры

### *Так пажадаў кіраўнік краіны*

У Беларусі павінны быць тры тэлеканалы – «першы, другі і СТВ, які павінен пераўтварыцца ў канал сталіцы і сталічнай вобласці». Пра гэта заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 26 лютага падчас узгаднення кандыдатуры Рыгора Кісяля на пасаду старшыні праўлення закрытага акцыянернага таварыства «Другі нацыянальны тэлеканал».

«Што да кантрольнага пакету акцыяў, то ў нас не можа быць прыватызавана ідэалогія, суб'екты і аб'екты ідэалогіі. Гэта павінна заставацца пад уплывам дзяржавы. Пакуль такім чынам, далей паглядзім. Магчыма, знойдзецца інвестар, якому мы зможам перадаць кантрольны пакет акцыяў. Але гэта павінны быць вельмі надзейныя і галоўнае – дзяржаўныя людзі», – сказаў Лукашэнка.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Чыноўнікі едуць у Мінск

«У Мінску пройдзе паседжанне Савету міністраў Саюзу Расіі і Беларусі» – такія загалоўкі сталі правілам у Маскве, хоць Саюзу Беларусі і Расіі (прычым якраз так, у алфавітным парадку) ужо даўно не існуе, а калі ён яшчэ быў, то Савету міністраў у ім не было.

«Паседжанне Савету міністраў Саюзу Расіі і Беларусі пройдзе не ў Маскве, а ў Мінску. Пра гэта паведаміў «Інтэрфаксу» ў сераду прэс-сакратар дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Іван Макушок». Характэрна, што ў пасадзе І.Макушка Саюзная дзяржава яшчэ фігуруе, а ў астатняй частцы паведамлення – не.

Хоць Расія афіцыйна пагадзілася на фармулёўку «Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі», маскоўскія чыноўнікі ўпарта называюць суседнюю краіну «*Белоруссией*». Цікава, што з гэтай жа прычыны ў афіцыйнай беларускай прэсе ніколі не публікуюцца цалкам лісты расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна свайму калегу ў Мінску – бо ўсе тэксты пачынаюцца так: «*Его Превосходительству Президенту Республики Белоруссия...*».

**УА «Інтэрфакс»**

# Францыя расследуе абставіны Чарнобыльскай катастрофы



*Справай шаснаццацігадовай даўніны займаецца суддзя Мары Жафруа. Яна справе ўстанавіць, наколькі законнымі былі дзеянні французскага ўраду пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС.*

Летась больш за 100 французскіх грамадзянаў, хворых на рак шчытападобнай залозы, падалі падобныя іскі супраць дзяржавы, перадае радыёстанцыя «*Эхо Москвы*». Іхнія інтарэсы абараняе незалежны даследчыцкі цэнтр *CRIIRAD (Commission de recherche et d'information independantes sur la radioactivite)*. Супрацоўнікі цэнтру ўпэўненыя, што пасля атрымання звестак пра выбух на ЧАЭС французскія ўлады паспрабавалі засакрэціць гэтыя звесткі, у выніку чаго здароўе мільёнаў іхніх суграмадзянаў апынулася пад пагрозай.

Паводле Крымінальнага кодэксу Францыі, былым чальцам таго ўраду пагражае цяпер адказнасць за халатнасць, а таксама за ўтойванне і скажэнне фактаў, якія радыкальна змянілі жыццё іншых людзей.

На адмыслова арганізаванай прэс-канферэнцыі дырэктарка *CRIIRAD* Карын Кастанье рытарычна пыталася ў прысутных: «Адкуль гэтыя лжывыя звесткі? Гэтыя відавочныя памылкі? Цішыня з афіцыйных і нават навуковых органаў?» Паводле навуковых звестак, радыеактыўныя аблокі знаходзіліся над Францыяй у час з 27 красавіка па 5 траўня 1986 году.

Супрацоўнікі цэнтру нагадалі, што Заходняя Германія, Аўстрыя і Італія пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС увялі розныя перасцярогі, датычныя, у прыватнасці, спажывання малака і малочных прадуктаў. Аднак французскія ўлады заявілі, што ніякай небяспекі няма і таму не існуе патрэбы ў адмысловых захадах па ахове здароўя.

У лістападзе 2000 году 31-гадовы французскі грамадзянін Ян ван Вэенберг, хворы на рак шчытападобнай залозы, прайграў у судзе працэс супраць уладаў. Ён абвінавачваў урад у нанясенні яму фізічнага ўрону ў выніку катастрофы ў Чарнобылі. Суддзя адмовіў яму на той падставе, што ён не мог даказаць навуковай сувязі паміж сваёй хваробай і выбухам.

Але цяпер, падаецца, справы складаюцца не вельмі прыемна для французскага ўраду. У аўторак Мары Жафруа загадала накласці арышт на дакументы французскага ўраду тых часоў. У паперах, сканфіскаваных з кабінету прэм'ер-міністра, архіваў міністэрстваў аховы здароўя, сельскай гаспадаркі, прамысловасці, унутраных справаў і аховы навакольнага асяроддзя, яна збіраецца знайсці адказ на пытанне: ці сапраўды ўлада ведала праўду пра радыеактыўную пагрозу, але не рабіла нічога, каб абараніць грамадзянаў? Па звестках радыё, французская суддзя ўжо даручыла спецыялістам па ядзернай фізіцы параўнаць паказанні аб узроўні радыеактыўнасці ў справаздачах ураду, паліцыі і ўладных структураў энергетычнага комплексу.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




# Амерыка пагражае санкцыямі

*Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША Рычард Баўчар паведаміў журналістам у сераду, што амерыканскія ўлады могуць увесці санкцыі супраць Беларусі, калі яна не спыніць пастаўкі ўзбраенняў у краіны-«ізгоі».*

Такі чынам прадстаўнік знешнепалітычнага ведамства Злучаных Штатаў пракаментаваў пытанне пра вынікі візіту ў Беларусь намесніка памочніка Дзяржсакратара па Беларусі, Украіне і Малдове Стывена Пайфера.

Нагадаем, што прычынай візіту С.Пайфера ў Мінск 20-22 лютага былі шматлікія паведамленні з разнастайных «вартых даверу крыніцаў» пра тое, што Беларусь праз трэція краіны пастаўляе ўзбраенні краінам і




арганізацыям, якія вядуць або падтрымліваюць тэрарыстычную дзейнасць, а таксама што ў Мінску ўвосень 2001 году афіцэры з Іраку вучыліся кіраваць ракетным комплексам С-300. Уся гэтая дзейнасць вядзецца ў парушэнне рэзалюцыяў ААН, падкрэсліваў дыпламат на прэс-канферэнцыі па выніках візіту.

*Заканчэнне на стар.3*

**ВЕСТКІ**




## Інтэграцыя ў паветры

«*Аэрафлот*» і беларуская авіякампанія «Белавія» падпісалі мемарандум аб інтэграцыі. Ён прадугледжвае ўзгадненне рэйсаў, тарыфаў, працэдуры рэзервацыі авіяквіткоў, адзіных стандартаў абслугоўвання пасажыраў, захадаў па заахвочванні пасажыраў, якія часта лятаюць. Але галоўнае для абедзвюх авіякампаній – набыццё ў лізінг новых самалётаў, якія мусяць адпавядаць стандартам Еўрасаюзу. Інакш паветраная дарога туды расійскім і беларускім лётчыкам будзе закрытая.

## Міліцэйскае свята

4 сакавіка – Дзень беларускай міліцыі. У гэты дзень беларускія праваахоўнікі ўскладуць вянкі і кветкі да памятнага каменя на рагу вуліц Камуністычнай і Чырвонай на набярэжнай Свіслачы, дзе хутка будзе ўсталяваны помнік беларускім міліцыянтам, што загінулі пры выкананні службовых абавязкаў.

## Лютаўская анамалія

У сераду, 27 лютага, увечары па ўсёй тэрыторыі Беларусі назіралася такая прыродная анамалія, як навальнічны дождж. І гэта ў лютым. Сіноптыкі не выключаюць, што навальніцы бліжэйшымі днямі абрынуцца нанава. Дарэчы, у суседняй з намі Польшчы ў гэтым лютым таксама ішлі лівені з маланкамі.

## «Мінімалка» падрасла

З 1 сакавіка мінімальная заробтная плата ў Беларусі павышаецца з 10 да 17 тысяч рублёў. Падлік памераў пенсій, стыпендый, дапамог ды іншых абавязковых сацыяльных выплат, а таксама падаткаў і штрафаў будзе рабіцца зыходзячы з базавай велічыні 10 тысяч рублёў.

## Балельшчыкі «дасталі» Сала

Пасля таго, як галкіпер шведскай зборнай па хакею Томі Сала прапусціў кур'ёзную шайбу ў матчы алімпійскага чвэрцьфіналу з беларусамі і ягоная каманда мусіла пакінуць Солт-Лэйк-Сіці, расстроеныя балельшчыкі Швецыі дагэтуль не могуць адысці ад тае паразы. У роспачы яны часта тэлефануюць з прэтэнзіямі чамусьці да сваякоў Сала – ягоных бацькоў і малодшай сястры.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**

**1680**

ВЕСТКІ



## Шпрыцаў будзе дастаткова

На тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны «Мінск» пабудуюць завод па вырабе аднаразовых шпрыцаў. На гэта пойдзе прыкладна 7,5 мільёна даляраў. Апрача таго, мажлівасць вырабу аднаразовых шпрыцаў вывучаецца на гомельскім заводзе «Гомельпласт».

## Бабруйчанкі шыюць для *Nike*

Людзі ва ўсім свеце цяпер будуць насіць спартовую вопратку, пашытую ў Бабруйску. Тамтэйшая фірма «Славянка» за месяц выканала заказ карпарацыі *Nike* па шыцці некалькіх дзесяткаў тысяч куртак, гарнітураў і шортаў.

## Будзем ратаваць клімат планеты

У сярэдзіне сакавіка міністр аховы навакольнага асяроддзя Лявонцій Харужык выправіцца ў Нямеччыну, дзе мае сустрэцца са сваім нямецкім калегам. Гаворка пойдзе пра перспектывы далучэння нашай краіны да Кіёцкага пратаколу, які прадугледжвае захады па змяншэнні аб'ёмаў выкіду ў атмасферу парніковых газаў, што негатыўна ўплываюць на клімат Зямлі.

## Карыкатурнае Гран-пры

Днямі наладчык мінскага заводу «Калібр» Юрый Тыліндус вярнуўся з Токіо, дзе яму быў уручаны Гран-пры міжнароднага конкурсу карыкатур, які штогод праводзіць японская газета «Еміуры».

## Заробкі падаюць

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, сярэдняя налічаная зарплата ў краіне ў студзені склала 166 821 рубель. Гэта ніжэй, чымсьці было летась у снежні, на 4,4%. Інфляцыя ў студзені склала 6,1%. Такім чынам, заробкі беларусаў рэальна знізіліся аж на 10%.

## Мадэрнізаваная дапамога дыханню

У Беларусі створаны новы апарат для штучнай вентыляцыі лёгкіх. Ён прадстаўлены на выставе «Ахова здароўя Беларусі-2002», што праходзіць гэтымі днямі ў сталіцы. Пакрысе гэтыя апараты будуць замяняць у нашых медычных установах старое абсталяванне.

## Беларусаў паменела на 39 тысяч

На пачатак году, паводле Міністэрства статыстыкі і аналізу, колькасць беларускага насельніцтва склала 9 мільёнаў 951 тысячу чалавек. За 2001 год беларусаў паменела прыкладна на 39 тысяч чалавек, гэта значыць на 0,4%. Узровень нараджальнасці меншы за ўзровень смяротнасці. Найбольшая розніца паміж гэтымі паказчыкамі на Віцебшчыне – 7,7 чалавек на 1 000 насельніцтва, Міншчыне – 7,4, Магілёўшчыне – 6,2. Найменшая – на Брэстчыне (2,8) і ў Мінску (0,2).

# Барацьба з заробкамі ў «канвертах»

Падатковыя органы Беларусі маюць намер змагацца з фактамі выплаты заробатнай платы «ў канвертах».

Як заявіў 26 лютага на прэс-канферэнцыі намеснік міністра па падатках і зборах Аляксандр Дарашэнка, у большай ступені гэтая барацьба закране прыватныя прадпрыемствы, бо на дзяржаўных «дастаткова добры ўлік і добры кантроль». «У асноўным гэта суб'екты гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці, як прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы, так і юрыдычныя асобы, якія маюць розныя формы ўласнасці, акрамя дзяржаўнай», – сказаў Дарашэнка.

Паводле яго слоў, метады, якімі падатковая інспекцыя змагаецца з нядобрасумленнымі падаткаплатнікамі, «ва ўсім свеце лічацца закрытымі». Між тым сутнасць аднаго з метадаў была раскрыта. Увага будзе звяртацца на факты, калі ўжо маюць месца, калі асобныя прадпрыемствы не выплачвалі зарплату сваім супрацоўнікам. Па выніках дэкларавання сукупнага гадавога даходу на 1 сакавіка гэтых людзей будуць выклікаць у падатковыя інспекцыі і будуць патрабаваць у іх дэкларацыі аб даходах і маёмасці. «Вы цудоўна разумееце – не атрымліваць заробатную плату, за што ж яны жылі?», – адзначыў намеснік кіраўніка Міністэрства па падатках і зборах. Гаворка не ідзе аб прадпрыемствах, якія з нейкіх эканамічных прычын не выплацілі своечасова заробатную плату «на працягу месяца, двух, трох». Гаворка ідзе аб тых суб'ектах гаспадарання, якія не выплачвалі зарплату на працягу году. «Ну немагчыма на працягу году не выплачваць зарплату. За што ж чалавек жыў увесь гэты час?» – сказаў А.Дарашэнка.

Аляксей АРЭШКА

# Крымінальная справа на «Нафтане»

Віцебская абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце злоўжывання службовым становішчам у дачыненні да некаторых прадстаўнікоў кіраўніцтва наваполацкага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «ВА «Нафтан».

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік пракурора Віцебскай вобласці Анатоль Лескавец, па справе праходзяць службовыя асобы ўзроўню намесніка генеральнага дырэктара прадпрыемства, аднак абвінавачанні ім пакуль не прад'яўлены. Больш дэталёвую інфармацыю Лескавец даваць адмовіўся, спасылаючыся на таямніцу следства. Ён таксама не пацвердзіў і не абверг інфармацыі адносна сувязі паміж узбуджэннем крымінальнай справы і працаю на «Нафтане» камісіі Камітэту дзяржаўнага кантролю Беларусі.

Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

# У Мінску з'явіцца нямецкі супермаркет

Нямецкая фірма *Metro AG* заявіла ў Дзюсельдорфе аб планах пашырэння сваёй сеткі буйных крамаў сістэмы *Cash&Carry*. У арбіту інвестыцыйных інтарэсаў фірмы ўвайшлі краіны былой Югаславіі, Украіна і Беларусь. «У дачыненні да ўсіх гэтых краін важна адзначыць, што мы імкнемся інвеставаць там у доўгатэрміновай або сярэднетэрміновай перспектыве», – заявіў прадстаўнік *Metro AG* Альбрэхт фон Трухзес.

Агенцтва «Ю.С.Ньюс»

# Шліфоўка для адукацыі

Пра неабходнасць «падшліфаваць савецкае лепшае» ў агульнаадукацыйнай школе заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 26 лютага падчас узгаднення кандыдатур намеснікаў міністра адукацыі Тацццяны Кавалёвай і Казіміра Фарыно.

«Мы не страцілі савецкай школы, мы не страцілі ўсяго лепшага, што было ў нас з савецкіх часоў, – сказаў Лукашэнка. – Пайшлі новыя тэндэнцыі, трэба было аператыўна вырашаць многія пытанні, у тым ліку ў адукацыі. Новы падручнік, новыя падыходы і дысцыпліна. Я ўпэўнены, што мы, захаваўшы савецкае лепшае ў савецкай школе, крышачку падшліфуем гэта, зробім больш цікавым працэс адукацыі для аб'екта адукацыі, для навучэнцаў, для дзетак у школе, я ўпэўнены, што будзе вынік».

Лукашэнка патлумачыў таксама, што ён мае на ўвазе пад пераходам школы на пяцідзёнку: «Гаворка не ідзе аб пяцідзёнцы як такой. Мы не можам дзяцей кінуць у суботу на плечы бацькоў, а то і не бацькоў, а на вуліцу. Яны павінны ў школе знаходзіцца. Панядзелак і аўторак у нас загружаныя дні, серада – гэта працоўнае навучанне і фізкультура, ну а субота – дзень для здароўя дзяцей, для іх разумовай разгрузкі, для фізічнай нагрузкі. У нядзелю – адпачынак».

Дзмітрый УЛАСАЎ

# Падсумоўваючы алімпіядныя рахункі

Даходы арганізатараў XIX зімовых Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці склалі 4,5 млрд. даляраў ЗША, што ўдвая перавысіла чаканы ўзровень. Згодна з паведамленнямі замежных СМІ, за некалькі гадоў падрыхтоўкі да Гульняў было створана 35 тысяч працоўных месцаў, а мясцовыя жыхары зарабілі 1,8 млрд. даляраў. У той жа час выдаткі на ўзвядзенне спартыўных збудаванняў, цырымоніі адкрыцця і закрыцця, захаванне бяспекі склалі менш за 1 млрд. даляраў.

На бяспеку патрачана 310 млн. даляраў – гэта самая буйная сума ў гісторыі Алімпійскіх гульняў. У мерапрыемствах па ахове парадку ўзялі ўдзел 15 тысяч супрацоўнікаў шасцідзесяці ўрадавых агенцтваў ЗША. Падчас Алімпіяды паступіла некалькі ілжывых сігналаў аб закладзеных выбуховых прыстасаваннях, 547 паведамленняў пра пакінутыя рэчы, а таксама пра выяўленне спораў сібірскай язвы ў аэрапорце. Паводле словаў арганізатараў Гульняў, спецслужбы прадухілілі ўсе патэнцыяльныя пагрозы.

Згодна з паведамленнем агенцтва *Associated Press*, амерыканцы задаволеныя цяперашнімі Гульнямі і хочуць зноў правесці зімовую Алімпіяду ў 2014 ці 2018 годзе. Аднак блізкія да Міжнароднага алімпійскага камітэту крыніцы сцвярджаюць, што ЗША могуць не ўбачыць у сябе Алімпіяду – зімовую ці летнюю – сама менш 20 гадоў. Прычына – шматгадовая напружанасць у адносінах паміж амерыканскімі арганізатарамі Алімпіяд і МАК. Па сведчанні аднаго з прадстаўнікоў Міжнароднага алімпійскага камітэту, часам чальцоў МАК выстаўлялі ў ЗША так, быццам яны толькі і рыхтуюць, «што патрабуюць чорнай ікры, цыгарэт і лімузінаў».

Дзмітрый УЛАСАЎ






# Прачытаў газету – перадай другому

У Свіслацкім раёне вельмі высокі ўзровень «ахопу насельніцтва бібліятэчнай справай». На 10 тысяч чалавек прыпадае ажно 14,8 бібліятэкі, а па вобласці ў цэлым – 6,2 бібліятэкі. Рэальна ў раёне існуе 37 бібліятэк. Адна бяда, самая свежая прэса – мінулагодняя. Два гады таму яшчэ здолелі выпісаць ажно 33 газеты і часопісы. Сёлета – аніводнага выдання. Няма грошай. Амаль усе бюджэтныя грошы, вылучаныя сёлета на раённую культуру, пойдуць на заробкі. Бібліятэкары мусяць дамаўляцца з чытачамі, каб тыя прыносілі з хаты прачытаныя газеты.

Начальства кажа работнікам культуры: вы павінны болей зарабляць самі. Лагічна. Але ў невялікім па насельніцтве і небагатым Свіслацкім раёне гэта даволі праблематычна. Іншая рэч – раён Шчучынскі. Там летась установы культуры самі зарабілі 20 мільёнаў рублёў. Але цяпер, каб пакрыць усе патрэбныя выдаткі, ім трэба зарабіць амаль у сем разоў больш. Бюджэтных грошай хоць бы хапіла на заробкі. Бо што адбылося летась? У самым канцы году былі даволі адчувальна павышаны заробкі. Грошай на гэта дадаткова дзяржава не дала. Таму іх узялі з іншых культурных праграмаў. Вядома, самае важнае – заплаціць заробкі, якія ў сельскіх культработнікаў усё адно застаюцца малыя. А што да свежай прэсы, дык ёй можна знайсці заменнік. Тым болей, скажуць «адказныя таварышы», вяскоўцам не да газет, асабліва на сяўбе і жніве. І, па сутнасці, будуць мець рацыю.

Як калісьці нас вучылі камуністы, газета – гэта прапагандыст, палітінфарматар і яшчэ чорт ведае што. Дык вось, з палітінфармацыямі ў нас сёння ўсё о'кей. Райвыканкамы рэгулярна пасылаюць на вёску свае «інфармацыйныя групы». Сялянам усё прывозяць у «разжаваным» выглядзе, як і ў часы Сталіна, напрыклад. Патлумачаць: як правільна разумець палітыку прэзідэнта, як ставіцца да уяўнай пагрозы з боку *NATO*, а як – да бясслаўнага ўдзелу дзяржаўнай каманды ў апошняй Алімпіядзе. Напрыклад, у Карэліцкім раёне 28 лютага палітінфармацыйная група пачала сваю паездку па раёне з вясковага спіртзаводу. Ці каб засцерагчы насельніцтва ад празмернага ўжывання моцнага напою мясцовага вырабу, ці каб заклікаць дапамагаць раёну пастаўляць дзяржаве малако і мяса. Дзіва што, за мінулы год у раёне паменшала кароў і коней на 700 галоў. На першы погляд, гэта не так і шмат – 13%. Але калі кожны год так пойдзе? Зрэшты, вёска вымірае. За год колькасць асабістых гаспадарак зменшылася на 222. Тым часам фермерскіх гаспадарак у такім немалым раёне, як Карэліцкі, – усяго 9. Дарэчы, мясцовыя фермеры лічаць нявыгадным займацца малаком і мясам. Усе разам яны маюць толькі 4 галавы буйной рагатай жывёлы і 24 свінні.

Заробкі на вёсцы малыя, асабліва ўзімку. Але выплачваюць іх усё адно нярэдка несвоечасова. А калі ўжо выдадуць грошы, дык часцяком вёска ходзіць ходырам. Самы ходкі і танны тавар у сельмагу – хлеб і выпіўка. У шчучынскім калгасе «Чырвоны сцяг» у адной вёсцы паставілі своеасаблівы рэкорд. Пасля выплаты заробкаў у мясцовым сельмагу за тры дні калгаснікі выкупілі 600 бутэлек «чарніла» і гарэлкі.

Сяргей НЁМАНСКІ

# Каўбасу – у крэдыт

Нават пры існаванні ў пушчанскіх мясцінах Белавежы незлічонай колькасці самагонных бровараў калектыўнай уласнасці, на Пружанскі і Камянецкі раёны таксама распаўсюджваецца сярэднеабласная статыстыка, паводле якой кожная сям'я выдаткоўвае са свайго бюджэту на віно і гарэлку суму, эквівалентную 20 даляраў ЗША. Каўбаса мясцовых гатункаў у крамах спажывкааперацыі не канкурэнт спіртовым напоям, а таму тут распачаліся сумныўныя эксперыменты.

Пружанскі райвыканкам, які ачольвае Аляксандр Юркевіч, даў дазвол атаварваць калгаснікаў пад іх заробленую, але затрыманую зарплату харчовымі прадуктамі мясцовых перапрацоўчых цэхаў. Разлік робіцца на тое, што запазычанасць перад людзьмі ў 150 мільёнаў рублёў удасца пагасіць, не выдаючы грошай на рукі. Калгасы маюць яшчэ ацалелую жывёлу, у райцэнтры зробяць з мяса каўбасу, а тавар з нацэнкай вернецца ў вёску.

Мікола НЯЗЛОМНЫ

# Зімовае паліва даражэе вясною

Скандаламі між вясковым насельніцтвам і ўладаю ў Брэсцкай вобласці суправаджаўся ацяпляльны сезон, які цяпер адыходзіць. Толькі 6 сем'яў з кожных 10 атрымалі торфабрыкет і дровы (вядома, паводле абмежаваных нормаў) па ніжэйшым сацыяльным кошце, калі бюджэт пагашае землякопам і леснікам частку аплаты за іхнюю прыродную прадукцыю. Хто спазніўся быць першым, апынуўся перад пагрозаю зімаваць у холадзе альбо плаціць на поўную катушку. На 1 тону брыкету з дастаўкай не хапала нават пенсіі ветэрана вайны ў 113 тысяч рублёў.

Зараз бяднейшым стане яшчэ горш. Аддзел цэнаўтварэння Брэсцкага аблвыканкаму абгрунтаваў падвышэнне грашовай долі насельніцтва ў аплаце за паліва яшчэ на 33%. Каб агонь у печы весяліў гаспадароў зімою, трэба грошы на паліва збіраць з вясны.

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

# Скачок з нёманскага мосту

Адзін жыхар Гродна скраў «жыгулі». Міліцыянты неўзабаве знайшлі яго за горадам. Але ён паспеў заскочыць у машыну і накіравацца назад у Гродна. Спынілі яго на Румлёўскім мосце – самым усходнім з трох аўтамабільных мастоў цераз Нёман. Міліцэйскі «Уаз» правёў таран. Абедзве машыны спыніліся. Злодзей выбраўся з «Жыгулёў», пабег да парапету і скочыў з вышыні каля 20 метраў. Аднак, паколькі мост вельмі доўгі, пад нагамі скрадніка апынулася зямля, а не рачная вада. На дзіва ўсім ён застаўся жывы, але атрымаў траўмы. У міліцыі злодзея ўжо ведалі як старога скрадніка аўтамабіляў.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

# Адваката адхілілі за дапамогу

*Адвакат Мікалай Шаліма адхілены ад удзелу ў справе былога генеральнага дырэктара Мінскага трактарнага заводу Міхаіла Лявонава ў якасці яго абаронцы.*

Як паведаміў журналістам адвакат, 26 сакавіка ў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь следчы Мікалай Зуеў азнаёміў яго з пастановай за подпісам намесніка начальніка аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Івана Бранчэля. «Мяне абвінавацілі ў тым, што ў парушэнне патрабаванняў палажэння аб папярэднім змяшчэнні пад варту ў Рэспубліцы Беларусь я стаў выносіць з СІЗА лісты і запіскі Лявонава і перадаваць іх работнікам Мінскага трактарнага заводу, і ў гэтых лістах і запісках утрымліваліся інструкцыі Лявонава яго былым падначаленым пра тое, як паводзіць сябе падчас допытаў па крымінальнай справе, якія дакументы падрыхтаваць для стварэння яму алібі ва ўчыненых ім злачынствах і іншыя ўказанні, звязаныя з расследаваннем дадзенай крымінальнай справы, – расказаў М.Шаліма. – Гэта поўны паклёп. Ніякіх спробаў з боку Лявонава даваць камусьці ўказанні, як сябе паводзіць падчас допытаў, якія даваць паказанні, не было. Ён у гэтай частцы паводзіць сябе вельмі карэктна, лістоў і запісак такіх не пісаў. Далей у пастанове сказана: як вынікае з паказанняў работнікаў заводу, адвакат збіраў на заводзе подпісы ў падтрымку Лявонава. Гэта таксама відавочны паклёп. Я нават не ведаў, што там збіраюцца подпісы, і ніякага ўдзелу ў збіранні гэтых подпісаў у падтрымку Лявонава я не браў. Ну і, нарэшце, мяне абвінавацілі ў тым, што я стаў тым самым супрацьдзейнічаць ажыццяўленню расследавання па крымінальнай справе».

Пра тое, што «справа Лявонава» становіцца яўна палітычнай, Мікалай Шаліма разважаць не захацеў. «Ацэнкі я даваць не магу і не маю права. Я думаю, што проста ўзніклі нейкія асабістыя непрыязныя ўзаемаадносіны паміж мною і Бранчэлем». Пры гэтым адвакат дапускае, што падставай для спробы адхіліць яго ад удзелу ў справе магло паслужыць і тое, што следчыя «заўважылі» яго «актыўнасць па збіранні доказаў невінаватасці Лявонава, таму і вырашылі адхіліць». Гэтыя дзеянні ён расцэньвае як незаконныя і тлумачыць, чаму: «Бранчэль у абгрунтаванні сваіх дзеянняў па маім адхіленні спасылаецца на артыкул 44 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Там сапраўды гаворыцца пра тое, што адвакат можа быць адхілены ад удзелу ў справе з-за выяўлення абставін, якія выключаюць яго ўдзел у крымінальным працэсе ў адпаведнасці з патрабаваннямі кодэксу». Абставіны гэтыя, паводле словаў абаронцы, выкладзены ў артыкуле 87 КПК, але там няма пункту, «які б дазваляў следчаму адхіліць мяне ад удзелу ў справе, нават калі б пацвердзілася тое, што напісана ў пастанове».

Адвакат напісаў, што пакідае за сабою права звярнуцца ў суд з іскам аб абароне гонару і годнасці. Ён таксама мае намер накіраваць скаргу на імя генеральнага пракурора з патрабаваннем, каб яму прадставілі тых людзей, якія кажуць, што ён збіраў подпісы ў падтрымку Лявонава, каб прад'явілі тыя лісты і запіскі, у якіх гаворыцца, каб людзі давалі паказанні, пажаданыя Лявонаву.

Што тычыцца падабароннага, то, як паведаміў Мікалай Шаліма, ён абураны дзеяннямі пракуратуры і расцэньвае іх як ціск на сябе. Пакуль жа М.Шаліма будзе дамагацца адмены рашэння органаў следства, без адваката Міхаіл Лявонаў не застанецца. Другі яго абаронца – чалец Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Андрэй Невядоўскі, які і будзе працаваць з былым гендырэктарам МТЗ.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# АБСЕ пазбягае супрацьстаяння

У Беларусі няма прычынаў для выхаду з Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе – так адкаментаваў заяву «сенатара» Мікалая Чаргінца прадстаўнік дзейнага старшыні АБСЕ па справах Беларусі Луіш Кобаса.

Нагадаем, што ў мінулым нумары мы прыводзілі пазіцыю старшыні сталай Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савету Рэспублікі, паводле якой Беларусі ўжо няма чаго губляць, і таму, маўляў, мы можам лёгка выйсці са складу гэтай найбольш уплывовай рэгіянальнай арганізацыі. Гэтую пазіцыю М.Чаргінец абнародаваў адразу пасля сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, і таму яна цалкам можа адпавядаць поглядам апошняга.

Л.Кобаса заявіў: «Мы не лічым, што гэта магчыма, бо Беларусь – вельмі важная краіна». На думку незалежных аналітыкаў, такая рэакцыя з боку АБСЕ сведчыць пра тое, што еўрапейская арганізацыя баіцца страціць апошнія рычагі ўплыву на афіцыйны Мінск і таму спрабуе крыху знізіць напал канфлікту.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Латвія – беларуская жытніца, Мінск – латвійскі Кувейт

У 2001 годзе Латвія імпартавала з Беларусі тавараў амаль на паўмільярда даляраў.

Па выніках 2001 году Латвія заняла другое пасля Расіі месца ў спісе краін-экспарцёраў беларускіх тавараў.

Як паведаміў беларускі МЗС, за мінулы год у параўнанні з папярэднім таваразварот паміж Беларуссю і Латвіяй вырас на 5,9 працэнта і склаў 528,6 мільёна даляраў ЗША. Пры гэтым аб'ём экспарту беларускай прадукцыі павялічыўся больш як на 5 працэнтаў і склаў 492,5 мільёна даляраў.

Аб'ём беларускага імпарту з Латвіі павялічыўся на 21,5 працэнта і перавысіў 36 мільёнаў даляраў. Латвія – адна з нешматлікіх краін, з якімі Мінск мае дадатнае гандлёвае сальда, прычым значнае – 456,4 мільёна даляраў.

Што ж імпартавала Латвія з Беларусі на суму амаль паўмільярда даляраў? Перадусім гэта прадукты перапрацоўкі нафты (83 працэнты ад усяго беларускага экспарту ў гэтую краіну). Далей ідуць пруткі з вугляродзістай сталі (2,6%), азотныя ўгнаенні (2,3%), трактары (1,1%).

Узамен Латвія пастаўляе ў Беларусь пшаніцу і пшанічна-ржаную сумесь (11,8%), трыкатажнае палатно (10,6%), а таксама мароженую рыбу (6,8%).

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс» (yusnews.info)**

# Папаўся з конікам

*Як паведаміла газета «Ашмянскі веснік», на ўчастку пагранічнай камендатуры «Ашмяны» створаны добраахвотныя дружыны ў дапамогу памежным войскам Беларусі.*



На нарадзе, якую ў раёне правялі па выніках гэтай чэкісцкай працы дружыннікаў, падкрэслівалася, что яны добра папрацавалі, але мяжа ўсё яшчэ не «на замку». Парушаюць беларуска-літоўскую мяжу не толькі ўсялякая са свету набрыдзь, але і мясцовыя жыхары, які соўгаюцца ў Літву ды назад, каб вырашыць нейкія ўласныя праблемы кантрабандным шляхам. А мо проста да радні ляснымі сцежкамі бегаюць. Але і сярод саміх дружыннікаў ёсць парушальнікі. Так, нейкі Дзятловіч, скарыстаўшы сваё службовае становішча, спрабаваў пераправіць у Літву коніка. Свайго або крадзенага, не ўдакладняецца, але прафесійныя памежнікі яго злавілі.

Дзятловіча выключылі з дружыннікаў, але гэтае пакаранне нічога не вартае ў параўнанні з тым, як «заляцеў» жыхар Івацэвічаў па прозвішчы Афіцэраў, якога за ацяпленне хаты па-за лічыльнікам, як паведаміла мясцовая «Газета для вас», аштрафавалі на два з лішнім мільёны рублёў. Зразумела, можна толькі паспачуваць небараку, але і кара заслужаная. Бо забыўся чалавек, што красці трэба калгасам, тады вінаватага не знойдзеш. Прыкладам, гаспадаркі Івацэвіцкага раёну завінаваціліся сваім крэдыторам каля 5 мільярдаў рублёў і аддаваць не збіраюцца, бо няма чым.

Увогуле, тэма злачынстваў супраць асобы і маёмасці займае немалое месца ў рэгіянальных газетах. У гэтым сэнсе крымінальная зводка газеты «Новае Палессе», што выдаецца ў Жыткавічах, мае тыповы характар: за першы тыдзень лютага РАУС зарэгістраваў 16 крадзяжоў асабістай, дзяржаўнай і кааператыўнай маёмасці, 1 разбой, 1 выпадак хуліганства, 1 крадзеж транспартнага сродку ды 19 сямейных сварак з ужываннем фізічнае сілы. Пастаянна ў раённым друку прысутнічае тэма рабавання вясковых крамаў спажывецкай кааперацыі. З іх выграбаюць усё, што трапляецца пад руку.

А ў Жодзіне нейкі дурань насупраць будынку «Прамбудбанку» непадалёк ад прахадной БелАЗу згубіў баявую гранату Ф-1, якую прыйшлося размініраваць ды падрываць на палігоне. Цікава, дзе ён яе ўзяў і куды валок?

Балючая тэма – разлікі насельніцтва за кватэры і камунальныя паслугі. Пра гэта пішуць амаль усе мясцовыя газеты, а «Святлу Кастрычніка», органу мсціслаўскай вертыкалі, для спіса даўжнікоў аднаго нумару не хапіла. Вось і атрымалася «сага з працягам» пра вольнае і заможнае жыццё ў краіне рынкавага сацыялізму.

Але найбольш рэгіянальная прэса шуміць з нагоды рэфармавання аграсектару. Зразумела, што тэма гэта інспіраваная зверху, таму, можа, шум гэты – вынік перабольшання. Але пачытаеш, і сёе-тое ў памяці застаецца. Вось пішуць, прыкладам, «Калінкавіцкія навіны», што ў калгасе «Камунар» гаспадарка дайшла да ручкі, што малако здабываецца несартавое, што яго мала, што на мясакамбінат здаюць не скаціну, а адны шкілеты, прыдатныя толькі для вытворчасці мясакасцявой мукі. Але калгаснікі дружна супраціўляюцца прапанове распусціць калгас ды стварыць на яго месцы нешта іншае. Бо ў такім выпадку трэба будзе і рабіць не па-калгаснаму.

Па інфармацыі слаўгарадскай газеты «Ленінское слова» (чуў бы гэта Ілліч!), на базе 27 калгасаў Магілёўскай вобласці будуць створаны фермерскія гаспадаркі. Інакш кажучы, з калгаснікаў зноў будуць рабіць «кулакоў». Калі атрымаецца.

**Кастусь СКУРАТОВІЧ**

# Амерыка пагражае санкцыямі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

На штодзённым брыфінгу ў Дзяржаўным дэпартаменце 27 лютага амерыканскі журналіст папрасіў прэс-сакратара Рычарда Баўчара пракаментаваць вынікі візіту С.Пайфера ў Беларусь і спытаўся, ці абмяркоўвалася ім праблема продажу зброі.

Рычард Баўчар заявіў наступнае: «У Мінску намеснік памочніка дзяржсакратара Стывен Пайфер сустракаўся з міністрам замежных справаў, міністрам абароны і з кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі. Намеснік памочніка дзяржсакратара яшчэ раз пацвердзіў пазіцыю Злучаных Штатаў: Беларусь не мусіць гандляваць зброяй з краінамі, вядомымі сваёй падтрымкай тэрарызму, або краінамі, што распальваюць рэгіянальныя канфлікты. Злучаныя Штаты вельмі сур'ёзна ўспрымаюць паведамленні аб продажы зброі дзяржавам або групам, якія падтрымліваюць або заахвочваюць тэрарызм. Мы выкарыстоўваем розныя сродкі, каб спыніць такія продажы. Калі патрэбна, мы ідзем на выкарыстанне законных санкцыяў».

Адказ амерыканцам даў Мікалай Чаргінец, які ачольвае ў Савеце Рэспублікі сталую Камісію па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Па словах «сенатара», якія распаўсюдзіла агенцтва «Інтэрфакс», «Беларусь не з'яўляецца буйным пастаўшчыком зброі і тым болей не пастаўляе зброю для продажу трэцім краінамі». Ён падкрэсліў, што скандалы вакол продажу Беларуссю зброі распальваюцца на «спецыяльную замову гэтак званых барацьбітаў за народныя інтарэсы».

Іншыя афіцыйныя асобы з Міністэрства замежных справаў і Міністэрства абароны працягваюць настойваць на тым, што Беларусь строга прытрымліваецца патрабаванняў міжнароднай супольнасці адносна гандлю ўзбраеннямі. У сваім афіцыйным каментары прэс-сакратар беларускага Міністэрства замежных справаў Павел Латушка паведамляе: «Хацелі б адзначыць, што ніякіх фактаў, якія б пацвярджалі незаконны гандаль Беларуссю зброяй нам не было прадстаўлена ні падчас візіту дэлегацыі Кангрэсу ЗША, ні падчас знаходжання прадстаўнікоў Дзярждэпартаменту ЗША, і нам няма ў чым апраўдвацца... Мы яшчэ раз падкрэсліваем, што Беларусь ніколі не гандлявала, не гандлюе і не плануе гандляваць зброяй у абыход санкцый Савета Бяспекі ААН або з краінамі, якія заўважаны ў падтрымцы тэрарыстаў».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ОСТАРБАЙТЭРЫ

# 100 мільёнаў еўра кампенсацыі

*На 2002 год запланаваныя выплаты кампенсацый 70 800 былым беларускім остарбайтэрам.*

На 2002 год запланаваныя выплаты кампенсацый 70 800 былым беларускім остарбайтэрам, чыя прымусовая праца выкарыстоўвалася ў нацысцкай Германіі ў гады Другой сусветнай вайны. Пра гэта 26 лютага паведаміў старшыня праўлення беларускага рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» (УПП) Валянцін Герасімаў на прэс-канферэнцыі, што прайшла ў Грамадскім прэс-цэнтры сталічнага Дома прэсы.

Паводле яго словаў, сёлета трэба будзе выплаціць кампенсацыі 70 тысячам былых вязняў прымусовай працы, якія жывуць у Беларусі, і 800 грамадзянам іншых краін СНД, якія ў гады Другой сусветнай вайны былі вывезены з акупаванай тэрыторыі Беларусі на прымусовыя працы ў Германію.

Арыенціровачная сума выплат – каля 100 мільёнаў еўра.

Як зазначыў Герасімаў, да 31 студзеня 2002 году фонд УПП атрымаў 141 047 заяваў на кампенсацыйныя выплаты. «Станоўчыя рашэнні прынятыя па 59 480 заявах, прычым 46 825 пацярпелым кампенсацыя ўжо выплачваецца, а 12 655 чалавек уключаны ў чарговы спіс, прадстаўлены на зацвярджэнне ў германскі дзяржаўна-прамысловы фонд «Памяць, адказнасць і будучыня», – зазначыў Герасімаў.

Мяркуецца, што да 1 чэрвеня 2003 году будзе завершаны першы этап выплат 65 працэнтам былых остарбайтэраў.

Як вядома, нямецкі фонд выдзеліў 694 мільёны нямецкіх марак для больш як 160 тысяч былых беларускіх остарбайтэраў, чыя рабская праца выкарыстоўвалася ў трэцім рэйху ў 1939–1945 гады. Усяго ж у перыяд Другой сусветнай вайны на яго тэрыторыю было накіравана больш за 400 тысяч беларускіх грамадзян, якія сталі вязнямі прымусовай працы. Валянцін Герасімаў паведаміў, што экспертная камісія фонду УПП бярэ пад увагу і ўсе віды ўскосных доказаў, якія пацвярджаюць верагоднасць фактаў, выкладзеных заяўнікам – лісты, заявы, пацвярджанні сведкаў, фота- і кінадакументы, публікацыі ў перыядычных і іншых друкаваных выданнях.

Аднаразовыя выплаты кампенсацыяў пачаліся 8 жніўня 2001 году і павінны завяршыцца да восені 2004 году. Прычым на атрыманне выплат у суме да 15 тысяч нямецкіх марак маюць права ўсе былыя вязні прымусовай працы, якія знаходзіліся ў зняволенні ў адным з нацыянал-сацыялісцкіх канцлагераў ці гета па-за межамі сённяшняй тэрыторыі Аўстрыйскай Рэспублікі. Кампенсацыі ў памеры да 5 тысяч нямецкіх марак выплачваюцца асобам, дэпартаваным на тэрыторыю Германскай імперыі ў межах 1937 году ці на акупаваную рэйхам тэрыторыю, дзе яны прыцягваліся да прымусовых работ на прамысловых прадпрыемствах або ў дзяржаўным сектары. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца і на асоб, якія на той час былі непаўналетнімі.

Апрача таго, прадугледжваюцца выплаты кампенсацый асобам, якія з-за нацысцкіх пераследаў з удзелам нямецкіх прадпрыемстваў панеслі маёмасную ці фізічную шкоду, звязаную з правядзеннем медыцынскіх доследаў над людзьмі ці сур'ёзным парушэннем здароўя дзіцяці, якое знаходзілася ў прытулку для дзяцей остарбайтэраў.

**Марат ГАРАВЫ**

# Моцныя карані

*Пад Саветамі рэлігія была забаронена, але мусульмане знаходзілі абходныя шляхі: напрыклад, выстаўлялі напаказ нязграбныя сярпы, якія нагадвалі паўмесяц – адвечны сімвал ісламу.*

Ніводнае кіргізскае свята не абыходзіцца без таго, каб спявак ні праспяваў колькі радкоў з надаўжэйшай у свеце аповесці. Эпас «Манас, Сэмэтэй, Сэйтэк» налічвае паўмільёна радкоў. Мяркуецца, што яму тысяча гадоў. Яго разглядаюць адначасова як гісторыю кіргізскага нацыянальнага героя Манаса і як гімн вольнасці, мужнасці і еднасці кіргізскіх плямёнаў.

Вучоныя не ўпэўненыя, ці жыў Манас напраўду. Але гэта неістотна. Прэзідэнт Кіргізстану Аскар Акаеў назваў гэтую аповесць «нашым духоўным фундаментам (...) нашым гонарам, нашай сілай і надзеяй».

За савецкім часам эпас быў забаронены ў школах, за выключэннем фрагментаў, адаптаваных да савецкай ідэалогіі; у Кіргізстане, як і ў іншых краях, Масква ўціскала нацыянальную традыцыю. Аднак савецкай уладзе не так лёгка было забраццa ў небасяжныя горы Паміру і Цяньшаню. Кіргізы, якія жылі там, моцна трымаліся сваіх каранёў. Пастухі спявалі пра Манаса вакол вогнішчаў, а бацькі навучалі вершам дзяцей.

Тэрыторыя кіргізаў, анексаваная Расіяй у 1876 годзе разам з астатнім Заходнім Туркестанам, стала савецкай рэспублікай у 1936 годзе. Саветы перайменавалі яго сталіцу ў Фрунзе – у гонар савецкага военачальніка часоў грамадзянскай вайны. Пасля 1991 году кіргізы вярнуліся да першапачатковай назвы гораду – Бішкек, што, праўдападобна, значыць «пяць рыцараў». Легенда кажа, што тыя рыцары біліся за чароўную даліну ля падножжа зіхоткіх гораў.



Сёння цяжка ўявіць сабе, каб які віцязь захацеў біцца за звычайны на выгляд горад, збудаваны з жылых каробак у савецкім стылі. Тут жыве нямала з больш як 600 тысяч расейцаў, якія засталіся ў Кіргізстане. Сёння яны складаюць 13% насельніцтва. Трыста тысяч выехалі, скардзячыся на «кіргізацыю» месцаў працы. Каб заахвоціць адукаваныя тэхнічныя кадры застацца, у 1996 годзе ўрад прызнаў расійскую мову афіцыйнаю поруч з кіргізскаю, якая, як і ўзбекская і туркменская, належыць да цюркскае групы.

Горы Кіргізстану не адгарадзілі краіну ад клопатаў, якія даймаюць яго суседзяў. З Таджыкістану сюды перайшлі атрады баевікоў, чый рух імкнецца паўтварыць у рэгіёне ісламскія дзяржавы. Яны бралі закладнікаў і вялі баі з рэгулярным кіргізскім войскам.

Прэзідэнт Акаеў часам ужываў савецкія метады, накідаючы наморднік на газеты, якія яго крытыкавалі, і пераследуючы палітычных апанентаў. На выйграных ім выбары 2000 году ценем кладзецца празмерная колькасць галасоў у урнах і застрашванне выбарцаў. Нягледзячы на абмежаванні з боку дзяржавы, незалежны друк і апазіцыя існуюць надалей.

Спрабуючы перайсці на рынкавую гаспадарку, урад Акаева пертварыў фабрыкі, што засталіся з савецкага часу, і іншыя прадпрыемствы ў акцыянерныя таварыствы. З гэтых таварыстваў, аднак, толькі нямногім удалося знайсці для сваёй прадукцыі рынкі збыту, а ўраду, які змагаецца з высокім беспрацоўем, інфляцыяй і выбоістымі дарогамі, трэба грошай.

Знаўцы Сярэдняй Азіі цвердзяць, што Кіргізстану, які і так загруз у даўгах, будуць надалей патрабавацца няспынныя пазыкі ад міжнародных установаў. Магчыма, легенда пра Манаса – сапраўдны духоўны фундамент гэтае краіны, але, на жаль, яна не дае магчымасці плаціць па рахунках.

**National Geographic**

**Насельніцтва**
4,8 млн.

**Плошча**
198 500 кв. км

**Сталіца**
Бішкек

**Мовы**
кіргізская і расійская (працэнтны падзел невядомы)

**Нацыянальныя групы**
кіргізы 65%
узбекі 14%
расейцы 13%
іншыя 8%

**Рэлігіі**
іслам 75%
праваслаўе 20%
іншыя 5%

**Сярэдняя працягласць жыцця**
63,5 года

**Дзіцячая смяротнасць**
77 на 1 000 народзін

# Турма для Саган

Вядомую французскую пісьменніцу Францўазу Саган прысудзілі да году турмы ўмоўна. Пісьменніца прызнана вінаватай у фінансавых махінацыях і ўхіленні ад уплаты падаткаў. У судзе Саган не прысутнічала, спаслаўшыся на кепскае здароўе.

У 1994 годзе Саган пераканала тагачаснага прэзідэнта Франсуа Мітэрана паўплываць на ўзбекскага прэзідэнта Іслама Карымава, каб той перадаў дзяржаўнай нафтавай кампаніі *Elf Akiten* выключнае правa на правядзенне маркетынгавых даследаванняў у Узбекістане. *Elf* аддзячыў сумаю, эквівалентнай 838 тысячам еўра, якую 66-гадовая пісьменніца атрымала да 1995 году і патрацілa на рамонт уласнага дому, не заплаціўшы пры гэтым ні граша падаткаў. У гэтам скандале былі замяшаныя шмат хто з высокапастаўленых асобаў Францыі, у якіх судовыя разборы яшчэ наперадзе.

Суд не стаў прысуджаць Саган да штрафу ў 50 тысяч еўра, але пастанавіў апублікаваць вердыкт у Афіцыйным дзяржаўным бюлетэні, а таксама ў газетах *Le Mond* і *Le Figaro*.

У ходзе разбору пісьменніца прызнала, што да яе звярталіся з просьбамі паўплываць на Мітэрана, але катэгарычна адмаўляла, што ёй за гэта плацілі. Адвакаты Саган сцвярджаюць, што праблемы з законам у яе ўзніклі толькі праз недасведчанасць у фінансавых пытаннях. Пісьменніца кажа, што атрымала грошы ад страхавой кампаніі за шкоду, нанесеную яе загараднаму дому. Па яе словах, яна пазычыла гэтую суму сваім сябрам.

Суд не пагадзіўся і прыняў рашэнне аб пакаранні. Цяпер у выпадку паўторнага парушэння закону вядомая пісьменніца можа з загараднага дому пераселіцца ў турэмную камеру.

# Падкоп пад амбасаду



Італьянскі суд у нядзелю прад'явіў афіцыйнае абвінавачанне 8 мараканцам. Ім інкрымінуюць стварэнне тэрарыстычнай арганізацыі. Следства лічыць, што менавіта яны рылі падкоп у раёне падземнага пераходу, размешчанага каля пасольства ЗША ў Рыме па вуліцы Вая Венета.

Італьянская паліцыя выявіла падкоп у чацвер, паведамляе *Reuters*. Мяркуецца, што ён зроблены тэрарыстамі, каб закласці пад будынак пасольства бомбу з атрутнымі рэчывамі.

Такую выснову прадстаўнікі праваахоўных органаў зрабілі, звязаўшы факт выяўлення падкопу і нядаўні арышт 8 грамадзян Марока, у якіх адабралі цыяністы калій у парашку, мапы пасольства ЗША ў Рыме і мапу камунікацыяў, па якіх горад забяспечваецца вадою.

Пасля арышту гэтае групы паліцыя правяла праверку ўсіх тунеляў і падземных пераходаў, размешчаных у раёне пасольства ЗША, а таксама сістэму электра- і газазабеспячэння ўсіх памяшканняў у гэтым раёне Рыму. У выніку і быў знойдзены падкоп.

Прадстаўнікі паліцыі паведамілі, што пры папярэдняй праверцы гэтага ўчастку сёлета ў другой дэкадзе студзеня падкопу яшчэ не было.

# Афганістан: эпілог

*Параза дэмакратыі ў Афганістане стварыла зародак канфлікту, які выліўся ў 23 гады войнаў. Апошняя з іх пакінула краіну ў друзе.*

Афганцы называюць тую пару «дзесяцігоддзем дэмакратыі». У 1963 годзе кароль Мухамед Захір Шах, чыя сям'я кіравала Афганістанам два вякі, у парыве аптымізму парваў з традыцыяй і пачаў пераварацць сваю адсталую краіну ў сучасную дзяржаву.

У 1964 годзе ён склікаў 452 пляменных і рэлігійных лідэраў і інтэлектуалаў на джыргу – традыцыйны афганскі сход, каб ратыфікаваць канстытуцыю, якая ператварала Афганістан у канстытуцыйную манархію. У наступным годзе пасля выбараў сабраўся парламент. Кабул ахапіў уздым. Падхапіўшы гэты настрой, дэпутаты асмялелі не менш за свайго манарха і засыпалі міністраў крытычнымі заўвагамі. У той жа час урад заахвочваў жанчын скідаць чадры, а Канстытуцыя гарантавала ім роўнасць. Жанчыны пачалі запісвацца ў Кабульскі універсітэт, які пры падтрымцы ЗША якраз разбудоўваўся. Некаторыя жанчыны трапілі ў парламент. Іншыя пaселі перад пішучымі машынкамі ў дзяржаўных установах – мужчынскім царстве. Некаторыя вучыліся вадзіць машыны.

Пачала прыходзіць фінансавая дапамога. І Савецкі Саюз, і Злучаныя Штаты будавалі дарогі. ЗША прафінансавалі вялізную ірыгацыйную сістэму ў даліне ракі Гільменд. З ЗША, Францыі, Германіі, СССР прыязджалі настаўнікі. Яны вучылі мовам, прыродазнаўчым навукам, матэматыцы, медыцыне, акушэрству, бухгалтэрыі. Расейцы будавалі жытло і навучалі войска.



Гэта былі цудоўныя часы. Прынамсі ў Кабуле. Ліберальная хваля, якая ўзнялася ў 1963 годзе, не дабралася, аднак, да вёскі. Дарогі былі пераважна грунтовыя, зрытыя каляінамі. Тэлефон быў навіною, тэлебачання не ведалі. Чытаць і пісаць умелі няпоўныя 10 працэнтаў афганскіх вяскоўцаў.

Парламент у Кабуле спрачаўся і крытыкаваў, але рэдка прымаў законы. Асмялеўшы пры новай вольнасці, камуністы ўзяліся ладзіць дэманстрацыі, падбухторваць да страйкаў і дамагацца як найхутчэйшых рэформаў. Кансерватыўныя афганцы пачалі асцерагацца дэмакратыі.

У 1973 годзе Захір Шаха скінуў ягоны стрыечны брат Дауд, імпульсіўны аўтакрат. Кароль з'ехаў у выгнанне ў Рым, а Дауд распусціў парламент і паклаў канец дзесяцігоддзю дэмакратыі. У 1978 годзе адбыўся чарговы пераварот: афганскія камуністы забілі Дауда і захапілі ўладу. Так пачаліся 23 гады няспынных войнаў.

Ці вернецца калі аптымізм таго дзесяцігоддзя? Прыгадайма лічбы: паўтара мільёна забітых і амаль чатыры мільёны ўцекачоў, у тым ліку бальшыня нешматлікага слою адукаваных мужчын і жанчын. Тысячы гектараў каштоўнае ворнае зямлі, замініраваныя, выведзены з ужытку. Кабул амаль цалкам зруйнаваны, універсітэт ператвораны ў друз. Дарогі, масты – панішчаны. Сёняшнія маладыя афганцы будуць ужо ў труне, перш чым іх краіна ўздымецца. Магчыма, не дажывуць да таго і іхнія дзеці.

**National Geographic**

**Насельніцтва**
26,8 млн.

**Плошча**
652 000 кв. км

**Сталіца**
Кабул

**Мовы**
дары (варыянт персідскае) 50%
пушту 35%
цюркскія мовы 11%
іншыя 4%

**Нацыянальныя групы**
пуштуны 38%
таджыкі 25%
хазарэйцы 19%
іншыя 18%

**Рэлігіі**
суніцкі іслам 84%
шыіцкі іслам 15%
іншыя 1%

**Непісьменнасць**
68%

**Сярэдняя працягласць жыцця**
46,2 г.

**Дзіцячая смяротнасць**
147 на 1000 народзін

# *NATO* плануе стварыць карпусы хуткага рэагавання

Апынуўшыся ўбаку ў афганскай вайне, *NATO* спрабуе цяпер знайсці для сябе новую ролю. У складзе гэтай арганізацыі плануецца стварыць тры карпусы хуткага рэагавання. *NATO* хацела б мець магчымасць выдзяляць для ўдзелу ў ваеннай кампаніі 100 тысяч чалавек і мяркуе ў будучыні мець пад ружжом звыш 250 тысяч чалавек, здатных удзельнічаць адразу ў трох канфліктах працягласцю да двух гадоў у любой частцы зямнога шару.

Аб'яднаны корпус хуткага рэагавання (*Allied Rapid Reaction Corps – ARRC*) з англічанамі на чале служыць галоўнай ударнай сілай «канфлікту новага тыпу» ў перыяд пасля заканчэння «халоднай вайны». Фармуюцца таксама пяць другіх карпусоў – на чале з італьянцамі, іспанцамі, немцамі, галандцамі, туркамі, а апрача таго, франка-германскі еўракорпус. Чакаецца, што названыя карпусы будуць зведзеныя ў два, якія дапоўніць *ARRC*. Усе карпусы будуць шматнацыянальныя, а іх арганізацыйная структура будзе будавацца па мадэлі *ARRC*, для якога Вялікабрытанія выдзеліць 60% асабістага складу.

Крытычным і непазбежным выпрабаваннем для Еўропы, Вялікабрытаніі і *NATO* хутчэй за ўсё стане Ірак. Найвышэйшыя еўрапейскія камандзіры пераканаsucc, што ЗША бліжэй да лета пачнуць там ваенную аперацыю.

Ініцыятыва *NATO* здаецца яшчэ больш ускладненай у святле прапановы аб стварэнні сілаў хуткага рэагавання Еўрапейскага Саюзу ў складзе да 60 тысяч чалавек, з уласнай камандай структурай і штабам. Адна з прапановаў прадугледжвае, што войскі ЕС увойдуць у склад сілаў *NATO*, якія разгортваюцца на тэатры ваенных дзеянняў. Але чакаецца, што супраць гэтае прапановы выступяць французы, жадаючы большай незалежнасці ад альянсу, у якім дамінуюць амерыканцы.

Ўрады краін *NATO*, у тым ліку Вашынгтон, прызнаюць, што *ARRC*, які ў перыяд свайго станаўлення накіроўваўся ў Боснію і Косава, мае высокаэфектыўную структуру баявога кіравання. Аднак застаюцца сумненні наконт здольнасці *NATO* аператыўна ўзаемадзейнічаць з *ARRC* без істотнае дапамогі з боку Амерыкі. Сілы альянсу ўсё яшчэ моцна залежаць ад Злучаных Штатаў у шэрагу жыццёва важных пытанняў, уключна з паветранай магутнасцю і сувяззю. Еўрапейскія чальцы *NATO* практычна не маюць магчымасцяў ні для арганізацыі «паветраных мастоў», каб перакідаць вялікія кантынгенты жывой сілы і тэхнікі ў зону канфлікту, ні для ажыццяўлення паветраных бамбардаванняў у працяглай ваеннай кампаніі. Падчас канфлікту ў Косаве авіяцыя еўрапейскіх краінаў *NATO* правяла ўсяго 20% самалёта-вылетаў, а астатнія былі здзейсненыя амерыканцамі.

**«The Independent»**

# Майстар выведкі

*Чытацкай аўдыторыі гісторык і папулярызатар гісторыі Генадзь Сагановіч вядомы як аўтар выдатнага даследавання «Невядомая вайна», прысвечанага трагедыі Беларусі ў ліхалецце 1648–1661 гадоў. Разам Генадзь Сагановіч і Уладзімір Арлоў стварылі бестселер «10 вякоў беларускай гісторыі». Навукоўцам і аматарам мінуўшчыны добра вядомы навуковы часопіс «Беларускі Гістарычны Агляд», які Сагановіч рэдагуе і выдае. Гэтымі днямі выйшла з друку новая праца даследчыка – «Нарысы гісторыі Беларусі». З гэтай прыемнай нагоды аўтар пагадзіўся пагутарыць з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ.*

***– Спадар Генадзь, і назва «Нарысы гісторыі Беларусі», і аб'ём у трыста старонак сведчаць пра грунтоўнасць кнігі і пра аддадзеныя ёй гады жыцця. На жаль, ёсць не надта прыемны для аўтараў закон: як толькі кніга выходзіць у свет, адразу аўтар пачынае шкадаваць, што не хапіла часу яе перарабіць. Ці вам пашанцавала і ў вас іншае адчуванне?***

– Не, я не стаў выключэннем, дакладна гэтак і са мной. Абсалютна інакш напісаў бы «Нарысы», калі б пісаў цяпер. Ініцыятыва ўзнікла на пачатку 1990-х гадоў, цяпер можна сказаць, што яшчэ ў мінулым стагоддзі. Тады адбываліся змены ладу ў мностве краінаў, і дзеля аб'ектыўнага азнаямлення з мінуўшчынай суседніх народаў пачалі пісаць гісторыі Літвы, Польшчы, Украіны і Беларусі для выдання ў Польшчы. Атрымалася так, што кніга адначасна выйшла па-беларуску і выходзіць у перакладзе на польскую мову. Гэта навукова-папулярнае выданне, даведзенае па часе да Падзелаў Рэчы Паспалітай. Аднак адчуваю і задавальненне: па-першае, што вылез з-пад груды гістарычнага матэрыялу, а па-другое – для мяне самога праясніўся вобраз мінулага, убачылася цэльная карціна нашай даўніны. Калі пішаш кнігу адзін, дык адсутнічае фрагментарнасць бачання, як у «нарысах», дзе ты запрошаны ў калектыў.

***– Трэба думаць, спадар Генадзь, вам і раней была відаць цэльная карціна і канцэпцыя. Вы аўтар «Невядомай вайны», якая на канкрэтных фактах сведчыць пра гібель паловы насельніцтва Беларусі падчас Патопу ў 17-ым стагоддзі. Можа патлумачыце, як вам бачыцца гэтак званы «залаты век» Беларусі? Пра яго многія любяць узгадваць як пра страчаны рай і эпоху вялікіх дасягненняў. Які час у нашай гісторыі вы назвалі б «залатым векам»? Ці наагул гэтакай рытарычнай фігурай лепш не карыстацца?***

– Не, ніяк не лепш. Такая міфалагема – «залаты век» – ёсць ва ўсіх нацыянальных гісторыях. У маёй апошняй кнізе яна таксама прысутнічае. У маім уяўленні наш «залаты век» прыпадае на канец 15 – пачатак 17 стагоддзя. Калі браць не толькі культуру, філасофію, кніжную справу, мастацтва, дзе быў найбольшы плён, але ўсе аспекты жыцця – і развіццё гаспадаркі, урбанізацыю, гісторыю палітычнага ладу. Пачатак 17 стагоддзя быў самы лепшы час шляхецкай дэмакратыі, збалансаваных формаў дзяржаўнага ладу. Можна нават сказаць, што «залаты век» працягваўся да апакаліпсісу, да пачатку хмяльніччыны. А гэта сярэдзіна 17-га стагоддзя.

***– Ну, а як «пазалаціць» тады контррэфармацыю, каталізацыю, паланізацыю, абранне на вялікіх князёў шведаў, Лівонскую вайну і г.д.? Не надта падобна да «залатога веку», калі ўлічыць яшчэ поўнае заняволенне сялянства, што не спрыяла росту гарадоў...***

– Ну разумееце, калі атаясамліваць беларусаў толькі з праваслаўем ды сялянствам, як недасведчана ці наўмысна робяць некаторыя даследчыкі і палітыкі, тады будзе сумнеў. Але каталізацыя на значнай тэрыторыі Беларусі была з самага пачатку хрысціянізацыі і паўплывала на культуру, паспрыяла талерантнасці ў самых шырокіх яе праявах, адбілася на свядомасці, прыкладам, праз Статуты на ўяўленнях пра дзяржаву...

***– Спадар Генадзь, а вось зараз дзяржаўныя мужы часам узгадваюць пра нацыянальную ідэю. І ў апазіцыі інтэлектуалы лічаць мэтазгодным падыскутаваць пра яе змест на цяперашнім этапе. Як бы вы сфармулявалі паняцце нацыянальнай ідэі? Калі б, прыкладам, падышоў да вас падлетак і запытаў: «Спадар Генадзь, а што такое нацыянальная ідэя?»***

– Падлетку наўрад ці здолеў бы растлумачыць. Калі пытаецеся як гісторыка, дык адкажу, што для мяне гэта – мая Айчына. Мне было надта праблематычна пісаць «Нарысы», бо шмат прыйшлося думаць, што пісаць – гісторыю народа, гісторыю дзяржавы ці гісторыю тэрыторыі. Усё гэта мянялася, прымала розныя формы, аднальінейнага развіцця не было. Ну, а як грамадзянін адказаў бы, што нацыянальная ідэя – гэта свая дзяржава. Для рэалізацыі нацыянальнай ідэі патрэбная дзяржава. Гісторыя – і ёсць дзяржава. Няма дзяржавы – няма нацыянальнай гісторыі, і наадварот.

***– А калі б вам прапанавалі напісаць кнігу пад назвай «Гісторыя Беларускай дзяржавы» як паралель да «Истории государства Российского», ці ўзяліся б вы за такую амбіцыйную працу?***

– Дзесяць разоў падумаў бы наперад, бо мусіў бы сутыкнуцца з цяжкімі праблемамі трактовак, з праблемамі спрошчвання падзей і наступстваў. Калі няшмат ведаеш, усё здаецца ясным. А як набываеш ведаў, дык складана робіцца пісаць, бо сам на любую тэзу маеш антытэзу. А гісторык не мае права спрошчваць.

***– А як вы прыйшлі да гісторыі? Ці нарадзіліся ўжо са схільнасцю даследаваць мінулы час? Ці бацькі вас арыентавалі? Наколькі ведаю, вы паходзіце з Палесся, з запаведных мясцін...***

– Месцы сапраўды запаведныя – непраходныя балоты, лясы. Сям'я – звычайная сялянская. Цяпер там дарогі, усё цывілізавана, але на нацыянальную ідэю і гісторыю там не было каму звярнуць маю ўвагу. У сям'і толькі праца была. Як для чалавека – найбольш матуля дала. А вось пасля школы выпала мне паехаць у Маскву на будоўлю алімпійскіх аб'ектаў. Туды многа людзей з'ехалася з усіх савецкіх рэспублік. У нас у калектыве грузіны былі, узбекі, татары, казахі, беларусаў колькі. Усе пісалі на куртках «Грузін», «Казах», «Узбек», толькі нашы нічога не пісалі, нічым не выдзяляліся і пра сваё роднае нічога не маглі расказаць, толькі цытаты з падручніка «Гісторыя СССР». Усё ў спалучэнні абудзіла цікавасць, і ўжо адтуль я паступіў на гістфак.

***– Калі пачалі вучыцца, хто паўплываў на вас з гісторыкаў?***

– Як выкладчык – Мікалай Гнеўка, на жаль, ён нежывы даўно. Значна паўплываў Міхась Ткачоў, ён быў нефармальным кіраўніком маёй дысертацыі, і як археолаг мяне многаму навучыў. Я абавязаны яму.

***– Вось вы ўжо і самі даследчаны вучоны. Калі б вам далі грошы на тры помнікі значным асобам Беларусі, каму б вы іх паставілі?***

– Ну канечне, Канстанціну Астрожскаму, Льву Сапегу... А трэці... так адразу не скажу...

***– Ну, а Тэадор Нарбут заслугоўвае? Здаецца, ён першы напісаў нашу гісторыю ў пяці тамах...***

– Безумоўна. Але ён інакшы на цэлы парадак. Іншыя ўклад і дзейнасць. У мяне як гісторыка хапае да яго заўвагаў. Ён пісаў як паэт, выдумляў многа.

***– Але і шаноўны Мікола Ермаловіч выдумляў не менш.***

– Ну, гэта так. Сярод гісторыкаў і казалі: «Ермаловіч – гэта Нарбут нашага часу». Ермаловіч заслужыў славу, гісторыкі яго не крытыкуюць, бо разумеюць, які час быў, калі ён пісаў.

***– Але калі б не выдумляў, можа нешта і не зварухнулася б. Ён стварыў міф. І сёння існуе патрэба ў міфе. Многія проста так і кажуць: «Нам патрэбны міфы, каб было цікава». Ці не такі ж міф – Аршанская бітва з датай 8 верасня? Як вы да гэтага ставіцеся?***

– Для мяне бітва пад Оршай – адна з самых значных падзеяў нашай гісторыі незалежна ад таго, як цяпер яе палітычна трактуюць. Гэта не проста сімвалічная пераможная падзея. Яна ўвайшла ў памяць народа, зафіксавана ў дакументах, хроніках, у літаратуры, выяўленчым мастацтве таго часу, адбілася на свядомасці.

***– Але пасля гэтай перамогі было шмат паразаў нашага войска ад тых самых маскоўцаў – як на гэта забываецца? Ці няма тут падабенства да перамогі нашай хакейнай каманды над шведамі на апошняй Алімпіядзе? Перамагчы перамаглі, але правілам не стала.***

– Трохі падабенства ёсць. Аднак на той час, каб не гэтая буйная перамога, дык, магчыма, гісторыя ВКЛ тады менавіта пад Оршай і скончылася б. Маштаб бітвы быў такі.

***– Буйны маштаб – вялікія ахвяры, рэчка была запруджаная забітымі. Дык з чаго радавацца праз 500 амаль год? Што святкаваць?***

– Ну, можа, такая прырода ў чалавека. Чамусьці цікавяцца людзі войнамі, героямі, можа, гэта псіхалагічна важна – надае пачуццё радавой бессмяротнасці. Парадокс для мяне вось у чым: войны мяне цікавяць, я пра іх пішу, падрабязна даследую, а сам па поглядах – пацыфіст. Ды ўся гісторыя – традыцыя такая склалася – гэта апісанне палітыкі і войнаў: каго дзе забілі і як уладу сабе ўзялі ці сваю захавалі.

***– А што, на вашую думку, мала адлюстравана ў гісторыі, якая падаецца людзям праз кнігі, падручнікі, літаратуру?***

– Амаль не адлюстравана і ў нашай, і ў сусветнай гісторыі роля жанчыны. Хоць зразумела, што ўплыў жаночы надта магутны – палова чалавецтва. Тое, што зафіксавана храністамі, паказвае, як часта гістарычныя лёсы вырашаліся ў залежнасці ад пачуццяў, ад жаночых парадаў, простага ўдзелу жанчын у падзеях. Трохі ведаем пра Ефрасінню Полацкую, пра некаторых княгіняў, а па сутнасці цэласнага вобразу жыцця наша гісторыя не дае. Чытаючы нашыя кнігі, яго не ўявіць.

***– А няма, спадар Генадзь, у вас адчування, што гісторыя ў пэўным сэнсе шпіёнская навука – выведваем тое, што людзі трымалі ў таямніцы. Чытаем чужыя лісты... Адпаведна і самі ў палоне даўніны, яе вязні. Вы ўвесь час там?***

– Увесь час і там і тут. Кожны чалавек, нават непісьменны, нясе ў галаве гісторыю, хоць бы ўласную – ад дзяцінства пачынаючы. Якая розніца, што да гэтага грузу дадаецца яшчэ іншая вялізная прастора. Гісторыя – гэта навука будучыні, гісторыкі для гэтай будучыні як варта. Можна пагадзіцца, што часткова і выведка, якая выкрадае сакрэты мінулага часу

***– І апошняе пытанне, спадар Генадзь. У вас, я ведаю, дзве цудоўныя дачкі. Ці цікавяцца яны гісторыяй і думаюць на ўзор бацькі прысвяціць сябе такой прафесіі?***

– Цікавяцца ўсім, што цяпер падлеткам цікава. Кнігі мае гарталі, але, шчыра кажучы, не думаю, што іх захапіла мара вывучаць гісторыю. Кожны сам адшуквае любімую справу. І лепш – калі самастойна. На свеце ёсць шмат больш цікавых заняткаў, чым заглыбляцца ў старасветчыну і апісваць яе ў кнігах.

***– Ну а сам бы спадар хацеў сабе іншага занятку замест гістарычнай выведкі, што абраў у маладосці?***

– Я – не. Я задаволены.

Гутарыў
**Канстанцін ТАРАСАЎ**

Фота Ул.ШЛАПАКА

# Бура над палацам Нямцэвічаў

Непапраўная бяда здарылася ў былым радавым маёнтку вядомага грамадскага дзеяча, літаратара, мемуарыста 19-га стагоддзя Юліяна Нямцэвіча ў Скоках (Брэсцкі раён). 27 лютага ў 16.30 ураганны вецер цягам сямі хвілінаў вырваў з каранямі або паламаў больш як 40 дрэваў, у тым ліку рэдкіх дэкаратыўных пародаў. Амаль поўнасцю знішчаная цэнтральная алея, парушана планіроўка старога палаца-паркавага ансамбля. Прырода ўрэшце нібыта адпомсціла нашчадкам слыннага земляка за яшчэ раней перапыненую памяць. Тут не захавалі нават парэшткаў ад драўлянага касцёла-пахавальні. Двухпавярховы палац эпохі барока неахайна выкарыстоўваўся для размяшчэння дзетдому. Апошнія 12 гадоў у будынку, на сценах якога вісяць мемарыяльная дошка і шыльда аб яго захаванні як узору палаца-паркавага ансамбля, вокны забітыя дошкамі. Снег, дождж і вецер крышаць цэглу на вынасных балконах і калонах. Пустыя бакавыя прыбудовы стыхійна ператвораныя ў прыбіральні.

Не хочацца верыць у дрэнныя прыкметы, але буралом у парку Нямцэвіча адбыўся якраз у месяц ягонага нараджэння. З 16 лютага 1757 году Нямцэвічы лічылі век свайго сына Юліяна Урсына. У 1777 годзе ён скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус. У часе паўстання 1794 году быў ад'ютантам Тадэвуша Касцюшкі. У баі з царскімі войскамі пад Мацяевічамі быў паранены і трапіў у палон, сядзеў у Петрапаўлаўскай крэпасці. З 1796 году па 1807 знаходзіўся ў ЗША, дзе зблізіўся з Джорджам Вашынгтонам. Вярнуўшыся на радзіму, шмат падарожнічаў, узначальваў Варшаўскае таварыства сяброў навукі. Узяў удзел у паўстанні 1830–1831 гадоў. У 1833 годзе эміграваў за мяжу і ў тым жа годзе заснаваў у Парыжы бібліятэку, якой завяшчаў сваю багатую літаратурную спадчыну. Ю.У.Нямцэвіч – аўтар раманаў «Двое паноў Сецяхаў», «Ян з Тэнчына», паэтычнай кнігі «Гістарычныя песні».

**Галіна БАРАВАЯ**

# Кнігі з бібліятэкі Радзівілаў

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАНБ адкрылася выстава «Выдатная кніжная спадчына XV-XX стагоддзяў Беларусі і Польшчы з калекцыі Радзівілаў», арганізаваная бібліятэкай пры ўдзеле пасольства Польшчы. Тут прадстаўлены каля 200 тамоў з калекцыі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў і збору польскіх кніг XV-XIX стагоддзяў. Загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ Аляксандр Сцефановіч паведаміў, што кніжны збор Радзівілаў унікальны па сваім складзе, храналогіі і змесце. Вялікую каштоўнасць уяўляюць прыжыццёвыя выданні Вальтэра, Віктора Гюго, Іагана Гётэ, Мікалая Карамзіна і іншых класікаў сусветнай літаратуры.

**Марат ГАРАВЫ**

# Купалаўскія святкаванні пачаліся

Літаратурны музей Янкі Купалы распачаў першы цыкл мерапрыемстваў, прысвечаны 120-гадоваму юбілею песняра. Як распавяла дырэктарка музея Жанна Дапкюнас, унучатая пляменніца паэта, гэта будуць канцэрты Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Міхаіла Фінберга. Канцэртны цыкл, які працягнецца 4 месяцы, мае назву «Купала і музыка».

Тым часам Літаратурны музей Купалы быццам выйшаў з-пад пагрозы адключэння ацяплення праз запазычанасць за камунальныя плацяжы. Энергетыкі спачатку перапынілі падачу цяпла ў філіял «Вязынка», а 28 студзеня планавалі зрабіць тое самае і ў мінскім музеі. Жанна Дапкюнас кажа, што гэтага не адбылося, бо пра адключэнне вязынкаўскага музея з'явілася інфармацыя ў прэсе. Праўда, сітуацыя з фінансаваннем Купалавага музея ўсё адно не змянілася, і ягоная адміністрацыя мусіць аплачваць камунальныя паслугі за кастрычнік, лістапад і снежань з сёлетніх сродкаў. Гэта значыць, юбілей Купалы будзе адзначаны сціпла. А вось з усталяваннем помніка Янку Купалу ў Маскве да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры пакуль багата няпэўнасцяў. Па нашай інфармацыі, масквічы пакуль яшчэ нават канчаткова не вызначыліся з месцам яго ўзвядзення. Спачатку гаварылася пра Кутузаўскі праспект, аднак маскоўскія гарадскія ўлады быццам бы перадумалі і цяпер прапаноўваюць беларусам іншае месца. У якасці новага адрасу называецца Міуская плошча. Нашы мяркуюць выправіцца ў расійскую сталіцу, каб на ўласныя вочы пагл ядзець, дзе ў Маскве хочуць паставіць помнік Купалу.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**




# Спартыўныя будні

Падышоў да вырашальнай стадыі чэмпіянат Усходнееўрапейскай хакейнай лігі. Скончыўся рэгулярны чэмпіянат і пачаўся плэй-оф. У чатырох чвэрцьфіналах прадстаўленыя тры беларускія клубы: «Гомель», які згуляе з кіеўскім «Беркутам», гродзенскі «Нёман», які сустрэнецца з маскоўскім «МГУ», і мінскі «Керамін», спаборнікам якога будзе ХК «Рыга». Гульні будуць весціся па алімпійскай сістэме да дзвюх перамог, далей паўфіналы. Варта заўважыць, што амаль палову ўдзельнікаў фінальнага этапу складаюць беларускія клубы. Памятаецца, яшчэ нядаўна, калі стваралася УЕХЛ, беларусы толькі і марылі, каб не вырыцца ў сваім катле і гуляць і з Латвіяй, і з Украінай. А цяпер на поўны голас ідуць размовы пра тое, што беларусам, у якіх ужо пад дзесятак каманд, варта праводзіць сваё, асобнае першынство. Расцём?

Беларускі тэнісіст Макс Мірны ў першым крузе моцнага тэніснага турніру ў сталіцы ААЭ Дубаі з прызавым фондам у 925 тысяч даляраў ЗША перамог італьянца Рэнца Фурлана з лікам 7:6, 6:2 і цяпер у 1/8 фіналу сустрэнецца з Цімам Хэнмэнам (Вялікабрытанія).

І самы апошні прыкол ад Беларускай федэрацыі футболу. Праз прэсу стала вядома, які аб'ект БФФ запрасіла ў УЕФА для бясплатнага будаўніцтва ў Беларусі. Калі ў Грузіі, Арменіі ці Латвіі гэта трэніровачныя цэнтры і штучныя футбольныя палі, то нашы запатрабавалі для сябе... сучасны офіс. Пра якое развіццё футболу тут можна гаварыць?

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Дэпутаты бароняць жывёл

Сталая камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанні лічыць неабходным у найбліжэйшы час прыняць закон «Аб абароне жывёл ад жорсткага абыходжання». Пра гэта гаварылася 27 лютага на пасяджэнні камісіі.

Паводле словаў дэпутата Марыі Худой, у чарнобыльскай камісіі ўжо некалькі гадоў знаходзіцца распрацаваны грамадскімі аб'яднаннямі законапраект аб абароне правоў жывёл. Унесці гэты дакумент у парадак дня сесіі спрабаваў яшчэ дэпутат Палаты прадстаўнікоў першага скліканя Пётр Жушма, аднак не знайшоў падтрымкі з боку Адміністрацыі прэзідэнта і Нацыянальнага цэнтру законапраектнай дзейнасці пры прэзідэнце. Пазней з аналагічнай просьбай у цэнтр законапраектнай дзейнасці персанальна звярталіся дэпутаты Анатоль Красуцкі і Наталля Машэрава, а таксама група парламентарыяў. Аднак кіраўніцтва цэнтру адхіліла прапанову дэпутатаў, спасылаючыся на тое, што закон «Аб абароне жывёл ад жорсткага абыходжання» не адносіцца да першачарговых.

Самі парламентарыі лічаць падобную адмову неабгрунтаванай і збіраюцца даслаць кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Уралу Латыпаву ліст, у якім звернуць яго ўвагу на неабходнасць больш паскоранага стаўлення чыноўнікаў да дэпутацкіх заканадаўчых ініцыятываў.

**Юрый ПАЦЁМКІН**



# Рок-каранацыя на рэстаўрацыі

*Ураджай чарговай рок-каранацыі наўрад ці назавеш добрым – тое, што задумвалі яе стваральнікі некалькі год таму, ужо даўно і амаль дашчэнту вычарпала сябе.*

У тым, што рок-каранацыя – сапраўды падзея, сумнявацца не даводзіцца, пераважна таму, што не даводзіцца і выбіраць – дзякуй, што хоць гэта ёсць. Дарэчы, усеагульную хвараблівасць скарысталі нават вядучыя каранацыі, якія выпрадзіліся ў «дахтароў», зачытвалі бюлетэнь гісторыі хваробаў выканаўцаў, ставілі дыягназ і выдавалі адмысловыя даведкі, маўляў, «зусім хворы на рок-н-рол» (праўда, і тут перастараліся – праз паўгадзіны смешнае зрабілася брыдкім, а ў паветры з'явіўся пах касторкі).

Пачыналася ўсё даволі цікава і прыстойна. Адчыняў каранацыю гурт «Стары Ольса», які, на жаль, не атрымаў чамусьці ніякага прызу. Подых сярэднявечча выдатна настроіў прысутных на пампезнасць, уласцівую падобным цырымоніям, дый першыя намінацыі з выступленнямі былі яшчэ хвалюючымі і спрэчнымі – «традыцыя і сучаснасць», «кліп году», «музыка году», «дэбют» і г.д. «Найлепшымі тэкстамі», напрыклад, вельмі трапна прызналі твор «Цацачная крама», напісаны Леанідам Дранько-Майсюком, які збіраўся, жартуючы, атрымаць два прызы ад «Аліварыі»: маўляў, адзін – Дранько, другі – Майсюку. Далей пайшла ланцуговая рэакцыя: «музыка году» Зміцер Вайцюшкевіч атрымаў яшчэ і «традыцыю і сучаснасць» за тую самую «Цацачную краму», пакладзеную на музыку, а «найлепшы кліп» дастаўся «Палацу», які сёлета не стаў «традыцыяй і сучаснасцю». З «дэбютам» абышліся ўвогуле па прынцыпе «абы з рук» – замест таго, каб шукаць, дапамагаць, прасоўваць, выбралі таго, хто ва ўсіх на вачах, мае падтрымку і, зразумела, прасоўваецца ўсімі і паўсюль. Ім стаў зусім малады калектыў, пераможца «Басовішча-2001» (пэўная тэндэнцыя ўжо ўкаранілася ў «каранацыі») – гурт «Імпэт», вакалістка якога, дзяўчынка, што заве сябе Данай, на дзіва ўсім, стала на дадатак «рок-князёўнай» (больш за ўсіх здзівілася, відаць было, Вераніка Круглова – леташняя пераможца ў гэтай намінацыі).

Але ідылія працягвалася нядоўга, прынамсі, да з'яўлення нейкіх зусім незразумелых прызоў і выканаўцаў – якіясь «вячэры у клубе «Графіці» на халяву» – прызы такія – атрымлівалі хто папала (здавалася сяды-тады, што і «хто ні папала ні пад якую намінацыю»). Некаторыя выхады яшчэ можна было зразумець, такія, як Валік Грышко альбо новы хардкор праект Памідорава, якія маюць вагу ў музычным асяроддзі і якім патрэбны быў анонс для новых праграмаў. Памідораў, дарэчы, гучаў даволі моцна – з гітарай самога Славы Кораня (яму зноў ніякага прызу не прызначылі, хоць ён варты куды большага, чым шмат хто з тытулаваных) і з шчыльнай яскрай рытм-секцыяй, так што альбом абяцае быць цікавым і модным, а таксама праблемным у тэкстах песень. А вось цэлы шэраг выканаўцаў выклікаў проста непаразуменне альбо нервовы смех у залі. Асабліва ў гэтым плане «вызначыліся» гурты «*Splenetic*» з Мінску і магілёўская банда (па-іншаму проста немагчыма іх назваць) з незразумелай назвай, што сканчалася на «...зія» і выклікала амаль спрэчкі сярод прысутных, якія вытрымалі і засталіся ў залі. Калі прасоўваць правінцыю, дык не так жа дзіка, хоць бы адпаведную намінацыю ўвялі. Таямніцай таксама застануцца мэты выступлення такіх «мэтраў» з глыбіні мінулага стагоддзя, як «*Ruble Zone*», «Сузор'е» і яшчэ некаторых з цяжкасцю адрэстаўраваных, якія «рыпелі і свісцелі» (і ў тым не быў вінаваты гукарэжысёр).

Праўда, не ўсё ўжо так сумна выглядала, былі і прыемныя моманты. Напрыклад, вельмі жыва і шчыра прадставіў беларускі фальклор дуэт «Аляксандра і Канстанцін». Дзяўчынка сваім спевам здолела адшукаць самыя тонкія струны ўжо «зацеклага» да таго часу слухача, і пасля яшчэ некалькі хвілін яе песня гучала паўзверх грання іншых выканаўцаў. Нельга таксама не адзначыць вечна вясёлых, заўсёды новых, маладых і таленавітых «Без Білета»: вось хто шукае, вось хто крамсае штампы, вось хто робіць сапраўдную жывую музыку. Хлопцам (і адной дзяўчыныя) прысудзілі «песню году» за напісаную ўжо даволі даўно «Маю краіну Беларусь», хоць шмат хто не падтрымаў гэткага рашэння; нешта такое, мабыць, адчуваў і сам гурт, бо нават карона за песню была падаравана першаму спрытнаму слухачу. Але сам выступ і новая песня былі больш чым цудоўнымі (не перахваліць бы) – музыкі пралілі на слухача цэлае мора амаль усеагульнага экстазу. Дарэчы, калыхацца хвалямі ім, відаць, падабаецца, бо нават назву яны змянілі на «*More*». Мелодыі былі вельмі хвалюючымі і своеасаблівымі – падабаліся і не ўразаліся ў мозг; гэта добры знак.

Потым, пасля яшчэ шматлікіх «сайту году», «падзеі году» і да таго падобнага, а таксама пасля даўбежкі выкапаных аднекуль поп-панкаўскіх «Лепрыконсаў», стомленага слухача падсілкавалі заўсёды станочай і заўсёды, на жаль, нязменнай «Крамай», альбом якой пад назвай «Хавайся ў бульбу» стаў лепшым (і не беспадстаўна) у мінулым годзе. Дзякуючы праграмы дабілі ўсіх «гуртом году» – галоўную карону аддалі стваральніку ідэі праекту «Я нарадзіўся тут» Алесю Сушу – самаму заядламу і папулярнаму рокеру нашай краіны. Але ходзяць чуткі, што па-сапраўднаму гран-пры прызначаўся Аляксею Шэдзько. У гато адбылася незразумелачка з ахоўнікамі канцэртнай залі, а ён, бачыце, не стаў разбірацца і ганарліва падаўся дадому, чым выклікаў невялічкую канвульсію ў арганізатараў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**



Ігар Варашкевіч



Лявон Вольскі

Фота IREX/ProMedia



Аляксандар Памідораў



Леанід Дранько-Майсюк

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 1 сакавіка

**1887.** Нарадавольцы, сярод якіх быў брат Леніна Аляксандр Ульянаў, зрабілі няўдалы замах на імператара Аляксандра III.

**1922.** Замест скасаванай Надзвычайнай камісіі (ЧК) было створана Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (ГПУ) БССР.

**1922.** Прэзідыум ЦВК БССР прыняў пастанову пра канфіскацыю царкоўнае маёмасці дзеля «дапамогі галадаючым Паволжа». Толькі ў Мінскай праваслаўнай епархіі было канфіскавана больш за 73 кг срэбра. Сярод іншага начыння царкваў улады аднялі (і вернікаў (і перадалі ў музей) крыж Еўфрасінні Полацкай.

### 2 сакавіка

**1562.** Нарадзіўся маршалак вялікі літоўскі Крыштаф Дарагастайскі, аўтар першага ў Рэчы Паспалітай дапаможніка па конегадоўлі «Гіпіка» (1603). Заснаваў у сваім маёнтку, Ашмяне Мураванай, кальвінскую друкарню.

**1877.** Памёр у беднасці і быў пахаваны на сродкі ўдзячных пацыентаў прэзідэнт Мінскага таварыства лекараў Вільгельм Гіндэнбург. Спрабаваў ствараць бясплатную лякарню для бедных і сам лячыў іх бясплатна. З нагоды смерці Гіндэнбурга яго ягоным сваякам даслаў словы спачування Ф. Дастаеўскі.

**1942.** Масавае забойства вязняў мінскага гета ў г. зв. Яме. Агулам тут прынялі гвалтоўную смерць каля 100 тысячаў чалавек.

**1962.** Амерыканскі баскетбаліст Уілт Чэмберлен набраў за адзін матч 100 ачкоў: закінуў 36 мячоў у часе гульні і 28 – са штрафной лініі. Рэкорд трымаецца дагэтуль.

**1992.** Пачалася грамадзянская вайна ў Босніі.

### 3 сакавіка

**1067.** На берагах Нямігі злучаныя войскі братоў Яраславічаў разбілі войска полацкага князя Усяслава Чарадзея.

**1802.** Бетховен апублікаваў найбольш папулярную кампазіцыю для фартэпіяна – «Санату месячнага святла».

**1977.** Падчас гульні ў гольф памёр ад інфаркту Бінг Кросбі, суперзорка амерыканскай музыкі. За сваю кар'еру ён зняўся ў 70 фільмах і прадаў паўмільярда запісаў каля 600 песень. Магілу спеваку выкапалі глыбей звычайнага, каб можна было потым пахаваць над ім ягоную жонку Кэтрын.

**1992.** Пачаліся баі паміж малдаванамі і славянскімі сепаратыстамі, якія заснавалі Прыднястроўскую рэспубліку, каб перашкодзіць Малдове самастойнае існаванне і унію з Румыніяй.

### 4 сакавіка

**1832.** Памёр французскі лінгвіст Жан Франсуа Шампальён, які расшыфраваў старажытнаегіпецкія іерогліфы.

**1877.** Амерыканскі вынаходнік Эміль Берлінер стварыў мікрафон. У той самы дзень у Маскве адбыўся першы паказ балету «Лебядзінае возера».

**1977.** У выніку землятрусу ў Румыніі загінулі 15 тысячаў чалавек. Падземныя штуршкі адчуваліся і ў Беларусі.

**1987.** Англічанін Дэвід Купар стаў чалавекам, які здаў іспыт на правы кіравання аўтатранспартам у найбольш паважным узросце: яму было 89 гадоў і 2 месяцы.

### 5 сакавіка

**1562.** Апошні магістр Лівонскага ордэну Готард Кетлер у сваім рыжскім замку перадаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму сімвалы сваёй улады – залатыя крыж і пячатку, а таксама архіў Ордэна мечаносцаў. Кетлер стаў першым герцагам Курляндыі – аўтаномнага краю, падпарадкаванага адначасна Польшчы і ВКЛ, а Мікалай Радзівіл Чорны – намеснікам караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста. Маскоўскі цар Іван Грозны скарыстаў гэтую нагоду для нападу на беларускія землі.

**1922.** Нарадзіўся італьянскі рэжысёр і тэарэтык кіно П'ер Паола Пазаліні, аўтар фільмаў «Евангелле ад Мацвея», «Дэкамерон» ды інш.

**1942.** У блакадным Ленінградзе адбылася прэм'ера Сёмай сімфоніі Дзмітрыя Шастаковіча.

### 6 сакавіка

**1822.** Нарадзіўся рускі пісьменнік і царкоўны дзеяч Леў Кавелін, які ў 1845 г. у часопісе «Маяк» упершыню апублікаваў беларускую ананімную паэму «Энеіда навыварат».

**1937.** Нарадзілася першая жанчына-касманаўт Валянціна Нікалаева-Церашкова. Палёт на караблі «*Восток*» адбыўся ў чэрвені 1963 г., калі Чайцы (так да яе звярталіся з Зямлі) было 26.

**1977.** У Васалапетэ (Швецыя) на лыжню выйшла рэкордная колькасць удзельнікаў традыцыйнае штогадовае гонкі – 10 934 чалавекі. Гонка на марафонскую дыстанцыю ў 89 км ладзіцца ў памяць пра Густава Вазу, які ў 1521 г. прайшоў на лыжах гэтым маршрутам, каб узначаліць паўстанне і заняць шведскі трон.

### 7 сакавіка

**1872.** Нарадзіўся галандскі мастак-абстракцыяніст Піт Мандрыян. Пачынаў як рэаліст, але вырашыў адмовіцца ад крывых ліній, якія надаюць малюнку псіхалагізм і прастораваю глыбіню. У 1911 г. Мандрыян стварыў вядомы трыпціх на тэму жаночых грудзей «Эвалюцыя»: у першай гераіні трохкутныя смочкі глядзяць у зямлю, у другой – у неба, а ў трэцяй яны чатырохкутныя, што сімвалізуе гарманічную раўнавагу высокага і нізкага пачаткаў чалавечай прыроды.

**1917.** Амерыканская кампанія *Victor Co* выпусціла першую грамкружэлку з джазавай музыкаю *The Dixie Jazz Band One Step*.

**1932.** Памёр прэм'ер-міністр Францыі, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1926 – за паваенную рэабілітацыю Германіі) Арысцід Брыян. Разам з амерыканскім дзяржсакратаром Келагам распрацаваў пакт, які абвяшчаў вайну па-за законам (яго падпісалі 54 краіны). У 1930 г. Брыян выступіў з ідэяй стварэння Еўрапейскага федэральнага саюзу – агульнай эканамічнай і ваеннай прасторы. Праект тады не ўдалося рэалізаваць, бо не ўсе еўрапейскія краіны пагадзіліся з ім (Турцыю, а таксама СССР не запрашалі).

**1942.** Партызаны застрэлілі ў Мінску кіраўніка Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі Фабіяна Акінчыца.

**1967.** Савецкія рабочыя і службоўцы былі пераведзеныя на 5-дзённы працоўны тыдзень (атрымалі другі выходны дзень).

**1997.** У Эдынбургу (Шатландыя) нарадзілася кланіраваная авечка Долі – генетычная копія сваёй маці (бацькі-барана ў Долі не было).

Падрыхтаваў
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1128 Нумар падпісаны ў друк 28/02/2002 (15:00) Наклад – 8.180